

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№16 (234) ЛІСТАПАД 2017 ГОД

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## ВЁСКА ЯЗВІНА: ЖЫЦЦЁ СЁННЯ

**Калі б яшчэ нейкіх 5-10 гадоў таму назад хтосьці сказаў, што вёска Язвіна Шумілінскага раёна будзе так імкліва выміраць, яго паднялі б на смех. Аднак за апошнія гады амаль уся сацыяльная інфраструктура сяла прыйшла ў незваротны заняпад.**

Тут дагэтуль пражывае дзесьці чатыры сотні вяскоўцаў, былі ўсе сацыяльныя аб'екты і сучасныя зручнасці для камфортнага жыцця, працаздольныя людзі,моладзь,інтэлігенцыяз настаўнікаў і спецыялістаў. Жыццё, здавалася б, зусім нядаўна працякала размерана, у школе звінелі дзіцячыя галасы, сяльчане руплівa працавалі ў мясцовым калгасе «Аграбаравінка» , культурна адпачывалі — усё цякло ў прывычным рытме. А галоўнае, вёска знаходзіцца паблізу райцэнтра Шуміліна, каля транспартных шляхоў, каля яе праходзяць чыгунка і аўтадарога Віцебск-Полацк.

І гэтае звыклае вясковае жыццё было парушана раптоўна. Эканамічны крызіс, які негатыўна адбіўся на дабрабыце большасці беларусаў, стаў як для жыхароў Язвіна, так і іншых вёсак раёна сапраўднай катастрофай. Сельскія жыхары, бадай што, як ніхто іншы, трапілі ў закладнікі безграшоўя і чарговай урбанізацыі. Пасля аб'яднання калгасаў і закрыцця амаль усіх сацыяльна-культурных аб'ектаў людзі збягаюць у гарады і за межы краіны, каб зарабіць сабе на хлеб.

Калі вытворчасці няма — дык няма дзе і працаваць. Улады пазачынялі ўсё, што можна было зачыніць: дома быта больш няма, сельскага клуба няма (ужо як два гады), спартыўная зала таксама не працуе, магазін Шумілінскага райспажыўтаварыства быў зачынены сёлетняй вясною.

Па неабходныя прадукты: хлеб, макароны, крупы, цукар і іншае — сяльчане ідуць у адзінае прыватнае міні-кафе «Віраж». Але там бывае і дарагавата, і цэны фіксаваныя.

Язвінская базавая школа-сад зачынена з першага верасня бягучага 2017 года ( тым заставалася яшчэ каля 30 дзетак), сельскую бібліятэку таксама зачынілі ў гэтым годзе с 1 кастрычніка.

З усіх сацыяльных аб'ектаў уцалеў толькі ФАП і аддзяленне сувязі, якое працуе да 12 гадзін дня, але без ашчаднай касы. Язвінскі сельскі Савет спыніў свае існаванне ў выніку аптымізацыі, цяпер у яго будынку паводле слоў вяскоўцаў, адно прадпрыемства гадуе там нейкіх чарвякоў ці вырабляе біягумус.

Як бы там ні было, але ўсё ж дзяржава павінна разумець, што і на сяле жывуць такія ж людзі, як і ў горадзе, што ім уласцівы ўсе даброты жыцця, якімі карыстаецца ўсё цывілізаванае чалавецтва.

Да прыкладу, жыхары Язвіна, якія пражываюць на вуліцы Новай, здаўна скардзіліся на дрэнную дарогу. За 14 гадоў яе практычна не рамантавалі, хіба што за апошнія два гады пару разоў прайшоў грэйдэр.

Паводле меркаванняў насельнікаў вуліцы, «нават на скутары не праехаць, са двара не выехаць — на дарозе стаіць суцэльная гразь і лужыны. Тратуараў на дарозе няма, пешаходы шпацыруюць таксама па гразі. Хуткая дапамога ў непагадзь да людзей праехаць таксама не можа, а на вуліцы ў большасці сваёй пражываюць песіянеры, якія часта хварэюць, а нядаўна ў калдобінах забуксаваў малакавоз».

Да таго ж ліхтары асвятляюць вясковую вуліцу толькі да 12 гадзін поўначы, а затым іх адключаюць. Безумоўна, людзі звярталіся на гарачую лінію да старшыні Шумілінскага райсавета Ірыны Новікавай, да мясцовых дэпутатаў, ім абяцалі зрабіць капітальны рамонт дарогі і вуліцы, аднак воз і цяпер там.

Па ўсяму відаць, што з «неперспектыўнасцю вёскі» сельскі люд даўно змірыўся, але ж паўсядзённыя праблемы населеных пунктаў павінны вырашацца мясцовымі ўладамі своечасова, тым больш, што гэта іх першарадная задача, і насельніцтва нашага раёна мае на гэта права.

**Аляксандр Шчамлёў**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## АПОШНІ ШАНС РАЙАГРАСЭРВІСУ

**Перадусім «Райаграсэрвіс быў у даўгах як у шаўках: іх больш за дзевяць мільёнаў рублёў. Гэта значыць чатыры з паловай мільёны даляраў. Прадпрыемства «рыхтавалася да памінак», але знізу пастукалі выратавальнікі.**

Уладзімір Яўсеенка, антыкрызісны кіраўнік сельгаспрадпрыемства «Райаграсэрвіс»: «Прэзідэнт даў магчымасць з маёмасці даўжніка, вылучыць усё самае ліквіднае і на гэтай маёмасцістварыцьновае прадпрыемства, якое будзе працаваць без даўгоў і стане рэнтабельным адразу».

Як вядома, Указ прэзідэнта дзейнічае з пачатку года. Ён дазволіў правесці свайго роду дыспансерызацыю. Дыягназ "неплацёжаздольныя" выставілі 425 сельгаспрадпрыемствам, у тым ліку і «Шумілінскаму райаграсэрвісу».

А ў былыя часы калісьці ім горда свяціла чырвоная зорка. З тае пары выцвілі толькі літары, але прадпрыемства «Шумілінскі райаграсэрвіс» грукатала на ўвесь раён. З дзясятак гадоў назад да райаграсэрвіс далучылі тры калгасу. Так у імгненне вока прадпрыемства стала гіганцкім: 17 ферм і палова зямель раёна.

Затым па класіцы: чарада дырэктараў (неяк за год змяніліся пяцёра) і, нарэшце, як у сапраўднай класічнай камедыі: «Да вас едзе крэдытор!». У даўгах як у шаўках: іх больш за дзевяць мільёнаў рублёў. Гэта значыць чатыры з паловай мільёны даляраў. Вядома, збіраліся яны гадамі. Для прыкладу: тут з размахам будавалі адразу два даільных залы. Не дабудавалі ў ніякі абодва.

І калі ў Шуміліна думалі, што апынуліся на дне, знізу пастукалі. У маі прадпрыемства прызналі неплацёжаздольнасці. У руках антыкрызіснага кіраўніка зараз 60 старонак, якія апісваюць, як адштурхнуцца ад дна, каб усплыць. Тут больш не рамантуюць тэхніку і не займаюцца дастаўкай угнаенняў. Стратэгічным прадуктам стала малако. Сюды склікалі навукоўцаў, каб тыя склалі карову новы рацыён. І лічбы папаўзлі ўверх літаральна кожны месяц. Зарплата супрацоўнікаў павялічылася на чвэрць. А што ж крэдыторы? Іх, мякка кажучы, пакуль што папрасілі пачакаць. Вось для гэтага і патрэбны план санацыі: ён хоць і лічыцца планам аздараўлення, але больш паходзіць на пратакол лячэння. І гэта адна з магчымасцяў асаблівага ўказу. Усе гаспадарнікі краіны ведаюць яго нумар – 253.

Аднак ва ўказе прэзідэнта прапісаны самыя шырокія льготы: растэрміноўка запазычанасцяў па штрафах і пенях, пазыках, нявыплачаных працэнтах і падатках, нават даўгах за святло і газ. А вось што рабіць з другімі? Ці вырашыцца на эксперыментальнае лячэнне? Чалавек, які прайшоў праз гэтыя пакуты, запэўнівае: банкруцтва не прысуд, а неад'емная частка эканамічнага працэсу. І ўспрымаць яго трэба як шанс (няхай сабе і апошні)

**Паводле ont.by/news**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

НАСТАЛЬЖЫ

## "МЫ РОДАМ З СССР"

**Менавіта пад такім дэвізам 4 лістапада ў Шуміліне прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя 100-гадоваму юбілею рэвалюцыйных падзеяў у Расеі.**

На ўрачыстым мітынгу выступіў старшыня Шумілінскага райвыканкама Аляксандр Снараў. Ён адзначыў, што "гэта гісторыя нашай Айчыны. Гісторыя, якая дае ўрокі мінулага, дазваляе стварыць, берагчы сваю дзяржаўнасць, адказваць на складаныя выклікі сучаснасці.

Прадстаўнікі працоўных калектываў Шумілінщчыны і жыхары райцэнтра, якія бралі ўдзел у мітынгу, усклалі кветкі да помніка Уладзіміру Леніну, таксама ушанавалі брацкія магілкі, памятныя знакаў Героям Савецкага Саюза і Героям Сацыялістычнай Працы ў гарадскім парку.

У Шумілінскай сярэдняй школе №1 былі прадстаўлены выставы "Мы родам з СССР", падрыхтаваная супрацоўнікамі раённай бібліятэкі, і "Дзень 7 лістапада", арганізаваная гісторыка-краязнаўчым музеем.

Варта дадаць, што на ўрачыстым мерапрыемстве адбылося ўшанаванне працоўных дынастый, агульны стаж кожнай з якіх склаў больш за сто гадоў. Дарэчы, прамысловасць нашага раёна прадстаўляла дынастыя Калошкіных-Ганчаровых-Фядураў з Обальскага керамічнага завода, жыллёва-камунальную гаспадарку – прадстаўнікі сям'яў Калеснікавых-Усоўскіх-Паціенкаў. Добра вядомы ў раёне медыцынская дынастыя Барадзіных, дынастыя музыкантаў Міхеевых-Галузаў-Фёдаравых, дынастыя педагогаў Рашэтнікавых-Улаховічаў.

**Ян Вайтовіч**

МАЛЫ БІЗНЭС

## НОВЫ ПРАДУКТОВЫ МАГАЗІН

**Па вуліцы Сіпко 47 гасцінна расчыніла дзверы новая гандлёвая кропка. Магазін пачаў працаваць з 20 кастрычніка, яго заснавальнікам з'яўляецца Валерыя Сідарава.**

Раней у гэтым памяшканні была кватэра, якую затым вывелі з жыллёвага фонду, а пасля афармілі пад магазін. Прынамсі, спрыяе гандлю і бойкае месца – магазін знаходзіцца каля перакрыжавання дарог, а побач праходзіць траса Віцебск-Полацк. Тут паблізу знаходзяцца жылыя кварталы па вуліцы Юбілейнай, маецца аўтастаянка, пастаянна шпацыруе нямала людзей .

Відавочна, што магазін ужо набыў папулярнасць сярод шумілінскіх пакупнікоў, па усяму відаць, што ў далейшым наведвальнасць будзе павялічвацца. Увогуле, асартымент тавараў больш-менш шырокі: хлебабулачныя вырабы, свежая гародніна і садавіна, яйкі, малочная, мясная і рыбная прадукцыя.

Таксама можна набыць сокі, чай, каву, пячэнне, цукеркі, шакалад, арэхі, чыпсы, кансервы, розныя прыправы. Халадзільная камера папаўняецца пельменямі, варэнікамі, марозівам, іншымі кулінарнымі вырабамі. Праўда, з алкаголю прадаецца толькі піва, але ёсць і цыгарэты.

Гандлёвая плошча невялікая, усяго дзесьці з 30 метраў кв., але затое ў памяшканні зручна і ўтульна. Сёння гэта магазін пакрокавай даступнасці, у якім ёсць сучаснае абсталяванне і неабходныя тавары паўсядзённага попыту.

З адкрыццём новай гандлёвай кропкі ў Шуміліне з'явілася рабочыя месцы для двух прадаўцоў. Магазін запрашае за пакупкамі з 8.00 раніцы да 22.00 вечара, без выхадных.

**Алесь Шумскі**

СПОРТ

# ЧАЦВЁРТАЕ ПАРАЖЭННЕ

**Шумілінскія футбалісты ў няўдачнай серыі матчаў пацярпелі чацвёртае паражэнне запар. У матчы фінальнага этапу чэмпіянату Віцебскай вобласці па футболу на сваім полі ФК «Шуміліна» у напружанай барацьбе саступіў камандзе ФК «Лепель».**

Гульня пачалася ў райцэнтры на гарадскім стадыёне са спазненнем: каля 3 гадзін апоўдні. Першы тайм прайшоў, бадай што, у роўнай барацьбе. Пры гэтым па два-тры небяспечныя моманты каля варот саперніка ўдалося стварыць гульцам кожнай каманды.

Напрыканцы першага тайма лік адкрыў лепельчанін Дзяніс Бартко, які забіў мяч у вароты шумілінцаў. Аднак у пачатку другога тайма шумілінскія футбалісты адыграліся: Улад Калеснікаў зраўняў лік — 1:1.

Перадусім прыкрая серыя паражэнняў пазбавіла ФК «Шуміліна» медальных перспектываў. Магчыма наша каманда, церпячы цяжкасці са зборам на гульні асабістага саставу, вырашыла ціха-мірна дагуляць чэмпіянат. Аднак усё ж такі сабрала 12 адважных футбалістаў, якія здолелі пастаяць за гонар каманды, не сталі статыстамі на полі, біліся за перамогу і згулялі як змаглі.

На жаль, атрымалася па іншаму – на гэта раз зноў не пашчасціла. У канцы матча каля варот шумілінцаў адбыўся інцыдэнт, у якія ўцягнуліся гульцы з абоіх бакоў. У выніку суддзя выдаў чырвоныя карткі адразу двум шумілінскім футбалістам і аднаму лепельскаму, якія затым былі выдалены з поля. Пасля чаго наступіў пералом: застаўшыся ў меншасці, ФК «Шуміліна» не змог настроіцца на стабільны працяг матча. «Лепель» пайшоў у атаку і забіў яшчэ два галы ў вароты шумілінцаў. Мячы рэалізавалі: Лень Дзмітрый Лень і другі свой мяч забіў Дзяніс Бортко.

Канчатковы лік сустрэчы 1:3, ФК «Шуміліна пацярпеў чарговае паражэнне.

Трэнер «Лепеля» Аляксандр Прыцкер, каментуючы гульню, сказаў, што лік мог быў быць і роўным, матч скончыўся бы ўнічыю, калі б не здарыўся інцыдэнт з выдаленнем футбалістаў.

Зараз у турнірнай табліцы чэмпіянату Віцебскай вобласці па футболу ФК «Шуміліна» апусціўся на апошнюю месца ў групе. ФК «Лепель» заняў першае месца ў табліцы.

**Алесь Прыбярэжны**

ВАЙСКОВАЯ СЛУЖБА

# ВОСЕНЬСКІ ПРЫЗЫЎ

**Урачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя адпраўцы прызыўнікоў, прайшлі ў сераду 1 лістапада ў райцэнтры.**

Падчас сёлетняга прызыву рады Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь папоўніць 28 юнакоў Шуміліншчыны.

Найбольшая колькасць маладзёнаў з Шуміліншчыны будзе праходзіць вайсковую службу ў Віцебску (9 хлопцаў трапілі ў 103-й мабільную брыгадуіўбатальёнМіністэрства ўнутраных спраў), яшчэ дзевяць прызыўнікоў адправяцца ў Барысаў, а трое – у Заслонава. Таксама трое маладзёнаў будуць памежнікамі і паслужаць у пагранічных атрадах Смаргоні, Ліды і Полацка.

Безумоўна, служба ў радах узброеных сілаў Беларусі — гэта нямалаважны этап у жыцці кожнага юнака. Бадай, што арганізатары гэтага "Дня прызыўніка" зрабілі ўсё, каб гэты дзень маладзёны запамяталі.

Галоўныя акцыі адбыліся ў цэнтральнай раённай бібліятэцы: тут прызыўнікам быў прапанаваны грамадзянскі абрад «Праводзіны ў войска».

У сваю чаргу прадстаўнікі мясцовай улады, грамадскіх арганізацый і духавенства выказалі наказ будучым абаронцам Айчыны, каб годна служылі, а ў Шумілінскі раён прыходзілі ўдзячныя лісты з вайсковых аддзелаў.

**Ян Вайтовіч**

# ЧЭМПІЁНЫ РЭСПУБЛІКІ

**Упершыню ў гісторыі раёна юныя валейбалісты з Шуміліна сталі чэмпіёнамі Беларусі.**

Без сумневу, гэта перамога сталася вынікам нястомнай працы трэнера і шумілінскіх юнакоў, якія перадусім усё ж такі заваявалі перамогу на першынстве Віцебскай вобласці па валейболе.

У шумілінскай камандзе гулялі: Данііл Сафонаў (капітан каманды), Станіслаў Бяззубенка, Ілья Хамаганаў, Павел Церашчук, Ілья Піульскі, Данііл Аўчыннікаў Аляксандр Лабачоў, Мікіта Шкулаў, Раман Насцюшкін, Кірыл Радкевіч.

Удзел у "спартовай дружыне" Аляксея Паршыкава прынялі валейбалісты з Оршы – Уладзіслаў Раманкевіч і Уладзіслаў Тамашэўскі.

Спаборніцтвы па валейболу наша каманда пачала адразу з перамогі над гаспадарамі: ў першые дзень спартакіяды абыйгралі каманду Магілёўскай СДЮШАР. А ў наступай сустрэчы шумілінцы перамаглі і мінчан.

Сардэчна віншуем валейбольную каманду Шумілінскай СДЮШАР і яе трэнера Аляксея Паршыкава з перамогай на рэспубліканскай спартакіядзе.

**Алесь Прыбярэжны**

ТАКІ ЛЁС

# “А ВЫ ЗНАЙШЛІ НАМ БАЦЬКОЎ?”

**Шумілінскія шасцікласніцы Маша і Каця Плісуновы ўпэўненыя, што ў іх лепшыя бацькі, хоць знаёмыя з імі ... ўсяго тры гады.**

**У чаканні цуду**

Як правіла, самае запаветнае жаданне ў хлопцаў, якія выхоўваюцца ў дзіцячым доме, – мець тых, што любяць і клапатлівых бацькоў. Такіх, якія пастаянна будуць побач, заўсёды падтрымаюць і суцешаць, растлумачаць незразумелае хатняе заданне, а ў выхадныя дні прыгатуюць што-небудзь смачнае і адправяцца разам на шпацыр.

Некалькі гадоў таму двайняткі Маша з Кацяй маглі пра гэта толькі марыць. Іх біялагічныя сваякі да таго часу зусім страцілі цікавасць да лёсу дзяўчынак, перасталі не тое што наведваць – нават пісаць і тэлефанаваць. І таму першае пытанне, якім Маша Плісунова сустрэла псіхолага Вялікалётчанскага дзіцячага дома, які вярнуўся з адпачынку, было: "А вы знайшлі нам бацькоў?»

У той момант парадаваць малую было няма чым. Якімі б выдатнымі сястрычкі ні былі, адразу для дваіх знайсці новую сям'ю заўсёды складаней. Нават аднаго незнаёмага дзіцяці, які ўжо выйшаў з дзіцячасадкоўскага ўзросту, узяць у свой дом не кожны адважыцца – такая вялікая адказнасць!

Тады ніхто і не меркаваў, што неўзабаве жыццё дзяўчынак кардынальна зменіцца.

**Круты паварот**

Пакуль Маша і Каця чакалі цуду, у шумілінскай сям'і Катловых усё ішло сваёй чаргой. Галіна Мікалаеўна і Міхаіл Васільевіч хадзілі на працу, гадавалі дзяцей. Дачка і сын паступова сталелі, настаў час, калі Алеся паступіла ў Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт і з'ехала ў Менск.

З улікам таго, што Аляксей – вельмі здольны хлопчык – вучыўся ў размешчанай у Ляскавічы Шумілінскай раённай гімназіі-інтэрнаце і з бацькамі праводзіў толькі выхадныя, дом без дзіцячых галасоў раптоўна апусцеў. Так, па тэлефоне размаўлялі шмат, але ж асабістых зносін гэта не заменіць ...

Неяк Галіна Мікалаеўна і Міхаіл Васільевіч сядзелі ля тэлевізара. На блакітным экране мільгалі карцінкі з жыцця выхаванцаў дзіцячага дома, а ў завяршэнне аўтары больш падрабязна спыніліся на лёсе аднаго хлопчыка, для якога шукалі бацькоў.

– Звычайна муж такія перадачы не глядзіць, – распавядае Галіна котловой. – А тут разам са мной не мог ад экрана адарвацца.

Ідэя ўзяць дзіцяці на выхаванне прыйшла ў галаву разам з мужам практычна адначасова. Галіна Мікалаеўна падумвала ўзяць хлопчыка, але Міхаіл Васільевіч больш схіляўся да дзяўчынкі – можа, таму, штоняны, якправіла, больш шчырыя і добрыя, ды і растуць не такімі падшыванцамі, як хлопцы. На тым і вырашылі. Сталі шукаць у розных раёнах. Усё ж такі справа адказная, выбар пажадана зрабіць адразу правільны, каб не падаваць ілжывых надзей і не раніць чыюсьці душу.

**Калі Галіна Катлова ўбачыла на сайце фатаграфію Машы Плісуновай, сэрца завагалася: вось яна, знайшлася!**

Галіна Катлова рассказвае, што дзяўчынка нават вонкава падобная на яе родную дачку. Аднак званок у дзіцячы дом паднёс сюрпрыз. «А Маша не адна, у яе ёсць сястра Каця. Забіраць трэба дваіх », – патлумачылі патэнцыйным бацькам.

Пачаўся перыяд цяжкіх роздумаў. З аднаго боку, не хацелася пакідаць малую ў сацыяльным установе. З іншага – пабойваліся, што не справяцца з выхаваннем двайнятак. Бо кожнае дзіця не павінна адчуваць сябе абдзеленым ні ў маральным плане, ні ў матэрыяльным. Абмяркоўвалі гэта ў сямейным коле, раіліся з кіраўніцтвам і псіхолагам дзіцячага дома. Разумелі, што без складанасцяў у любым выпадку не абысціся, і ў рэшце рэшт вырашылі рызыкнуць: паехалі знаёміцца.

**Я+я+я+я – атрымліваецца сям'я.**

Дзяўчынкам новыя бацькі таксама спадабаліся. Маша і Каця з нецярпеннем чакалі кожных выхадных, калі іх забіралі з дзіцячага дома ў Шуміліна. А неўзабаве назусім перабраліся да Галіны Мікалаеўны і Міхаіла Васільевіча, адразу сталі называць іх мамай і татам. Пасябравалі і са старэйшымі дзецьмі, якія былі не супраць такога папаўнення ў сямействе. З тых часоў мінула ўжо амаль тры гады.

Нягледзячы на агульны дзень нараджэння, сястрычкі шмат у чым розныя. Маша – рахманая, старанная, разважлівая. А Каця часам менш адказная ў вучобе, затое больш рашучая, лідэр па характары. Ды і вонкава двайняткі адрозніваюцца. Але маму абедзве аднолькава любяць.

– Яна ў нас добрая, – паўтараюць дзяўчынкі ў адзін голас. – Калі што не так, напрыклад, калі атрымаеш дрэнную адзнаку, мама не журыць, а пераконвае, што трэба яе выправіць. І з урокамі дапамагае разабрацца, калі папросіш.

Муж і жонка Катловы імкнуцца выхоўваць сясцёр гэтак жа, як і сваіх родных дзяцей, паступова прывучаючы іх да неабходных будучым гаспадыням навыкаў, клапоцяцца аб усебаковым развіцці выхаванак – дзяўчынкі займаюцца валейболам, вучацца граць на флейце ў школе мастацтваў.

Усе разам яны з задавальненнем ездзяць за грыбамі або праводзяць час на дачы, якая, дарэчы, нядрэнна дапамагае пракарміць вялікую сям'ю. А на выхадныя да дружнай кампаніі дадаюцца старэйшыя дачка і сын. І хай часам даводзіцца пераадольваць матэрыяльныя цяжкасці, але чаго заўсёды ў дастатку у Катловых – дык гэта любові адзін да аднаго, якую ніякімі грашыма не вымераеш.

Напярэдадні Дня маці ў Шуміліне традыцыйна называюць уладальніцу прэміі імя Героя Сацыялістычнай Працы С. Т. Пальвінскай. У 2017 годзе ёю стала Галіна Катлова.

Дадзеная прэмія, якая носіць імя заслужанай зямлячкі, зацверджана рашэннем Шумілінскага райвыканкама ад 26 лютага 1997 г. у знак павагі да жанчыны-маці, яна ўручаецца за ўклад ва ўмацаванне сям'і, выхаванне дзяцей і ўдзел у грамадскім жыцці.

**vitvesti**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

## АБ’ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі “Світанак”, то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.***

ДЭКРЭТ №3

# «ТУНЕЯДЦЫ» БУДУТ ПЛАТИТЬ ПО ПОЛНОЙ... СТОИМОСТИ

**Обновленный декрет № 3 предполагает возмещение «тунеядцами» полной стоимости льготируемых государством услуг.**




Новая редакция проекта декрета № 3 «О предупреждении социального иждивенчества», который теперь называется «О содействии занятости», подразумевает, что граждане, признанные социальными иждивенцами, должны будут возмещать полную стоимость льготируемых государством услуг. Об этом журналистам сообщила 9 ноября в Палате представителей министр труда Ирина Костевич.

По ее словам, проект обновленного декрета находится на рассмотрении в Администрации президента. «Секретов никаких нет. Уже неоднократно мы говорили, что обновленная версия декрета № 3 направлена прежде всего на содействие и стимулирование занятости, на активную политику занятости по отношению к тем гражданам, которые хотят работать», — сказала министр.

На вопрос, как планируется стимулировать тех, кого признают «тунеядцами», Костевич ответила: «Я не знаю по поводу тунеядцев и не хочу произносить эти слова. Но прежде всего обновленный декрет № 3 направлен, в том числе, и на выход из тени тех, кто занимается скрытой занятостью. Чтобы действительно вывести этих людей на рынок труда, мы планируем полное возмещение тех затрат, которые сегодня льготируются со стороны государства».

«Какие это будут услуги, будет еще рассматриваться», — добавила министр.

Замминистра труда: новая редакция декрета № 3 направлена на обеспечение занятости, а не на уплату какого-то сбора

Декрет № 3 «О предупреждении социального иждивенчества» был подписан Александром Лукашенко 2 апреля 2015 года. Он обязывал граждан Беларуси, постоянно проживающих на территории страны иностранных граждан и лиц без гражданства, которые не участвовали в финансировании государственных расходов или участвовали в таком финансировании менее 183 календарных дней в году, уплачивать сбор в 20 базовых величин. Иначе им грозил штраф либо административный арест, напоминает БелаПАН.

Срок уплаты сбора истек 20 февраля 2017 года. По данным Министерства по налогам и сборам, сбор уплатили более 54 тыс. человек из 470 тыс., которым были разосланы уведомления.

Декрет вызвал возмущение в обществе и привел к массовым уличным протестам, пик которых пришелся на весну этого года.

В начале июля Лукашенко распорядился начать возврат сбора, уплаченного по декрету, но деньги возвращают только тем, кто смог трудоустроиться. На совещании 3 августа он подчеркнул, что «никакой отмены декрета № 3 быть не может» — речь идет о новой редакции этого документа. Глава государства поручил правительству подготовить обновленный вариант к 1 октября. 2 октября стало известно, что доработанный вариант декрета № 3 направлен на рассмотрение президента.

**Алексей АЛЕКСАНДРОВ**
**http://naviny.by**

НАША ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ

# ЦІ КАСТРЫЧНІК ПРЫДУМАЎ БЕЛАРУСКУЮ ДЗЯРЖАВУ?

**Майму карэктнаму калегу Валеру Карбалевічу цяжка спрачацца з тым фактам, што «без Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускай дзяржаўнасьці не было б» — гэта Валер цытуе кагосьці зь дзяржаўных ідэолягаў.**

«Існаваньне БССР у складзе СССР, — піша Валер ужо ад сябе, — спрыяла фармаваньню беларускага этнасу, нацыянальнай ідэнтыфікацыі».

Думка ня новая. Настолькі ня новая, што быццам і даказваць ня трэба. І так усім ясна. «Падабаецца гэта каму-небудзь ці не, гэта факт», — настойвае цытаваны Валерам ідэоляг.

А як можа не падабацца, калі тым, каму не падабаецца, усё мінулае стагодзьдзе рот закрывалі адным аргументам — сырой зямлёй. І паўтаралі свой «факт» з пакаленьня ў пакаленьне. Бо нічога, апроч паўтарэньня, у іх не было.

Сёньня праўда, а яна адваротная, падмацаваная аргумэнтамі, прагучала ўжо шмат разоў. Але праваднікі «постпраўды» стаяць на сваім: беларусаў прыдумаў Кастрычнік.

Пачнем з Кастрычніка, безь якога «не было б беларускай дзяржаўнасьці».

Усе сучасныя нацыі сфармаваліся ў XIX стагодзьдзі. Беларусы тут не выключэньне. Гэта тыповы працэс для ўсіх. Спачатку ўзьнікае нацыянальная ідэя (а гэта ўласна і ёсьць ідэя сваёй нацыянальнай дзяржавы), вакол ідэі фармуецца нацыя. Урэшце нацыя здабывае гэтую самую дзяржаўнасьць. І па тэрмінах гэты працэс у эўрапейскіх народаў адбываўся больш-менш сынхронна, што ў беларусаў, што ў фінаў ці немцаў.

Беларуская нацыянальная ідэя ўзьнікла ў асяродзьдзі студэнтаў Віленскага ўнівэрсытэту, аб'яднаных у таварыства філяматаў-філярэтаў. Гэта 1817 год. Вось бы нам што сёлета адзначаць, а не Кастрычнік.

Далей на працягу XIX стагодзьдзя праз асьветную працу пад шалёным прэсінгам з боку расейскіх акупантаў (успомніце, што стала зь філяматамі) і паўстаньні супраць гэтых самых акупантаў, масавыя рэпрэсіі і супрацьў цынічнай русіфікацыі краю (тысячы герояў аддалі сваё жыцьцё, здароўе і свабоду за гэтую ідэю) беларуская ідэя дабралася да 1897 году — першага імпэрскага перапісу насельніцтва, дзе беларускую мову назвалі сваёй 6 мільёнаў чалавек. Іх што, Ленін за язык цягнуў? З Шушанскага. Але менавіта гэты год (сёлета таксама круглая дата) можна лічыць годам, калі сфармавалася беларуская нацыя. За 20 гадоў да Кастрычніка.

Гэтай падзеі папярэднічала зьяўленьне на сьвет маніфэсту Францішка Багушэвіча ў 1891 годзе:

«Можа, хто спытае: дзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, дзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, дзе Гродна, Менск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...»

Пачынаючы з 1906 году — як з рогу ўсяго многа — беларускія газэты, школы, партыі, царква, тэатры...

Усё, між, іншым, як ва ўсіх — у літоўцаў, палякаў, чэхаў. І як ва ўсіх, у 1918 годзе — абвяшчэньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Але якім тут бокам Кастрычнік? А вось якім.

25 кастрычніка 1917 году бальшавікі захопліваюць у Расеі ўладу.

У сьнежні 1917-га ў Менску зьбіраецца прадстаўнічы Ўсебеларускі кангрэс — больш за тысячу дэлегатаў ад усіх беларускіх арганізацый і рэгіёнаў. Кангрэс пастанаўляе аб'явсьціць Беларусь незалежнай дзяржавай. У залю ўрываюцца расейскія бальшавікі і разганяюць кангрэс. Але застаецца Рада кангрэсу, якая працягвае працаваць і 25 сакавіка 1918 году абвяшчае Беларусь незалежнай дзяржавай. У краіне ідзе вайна, Менск акупаваны немцамі. А што Кастрычнік? Бальшавікі зноў захопліваюць Менск і выцясьняюць Урад БНР спачатку ў Горадню, пасьля ў эміграцыю. Праўда, нікуды не ўдаецца выцесьніць легітымнасьць Ураду і яго рашэньняў. Каб неяк справіцца з гэтым, бальшавікі аб'яўляюць сваю ССРБ — цалкам падначаленую Маскве рэспубліку, чым дасягаюцца дзьве мэты: змазаць эфэкт агрэсіі і акупацыі, а таксама зрабіць народу прышчэпку кароўскай воспы — ад дзяржаўнасьці.

А што, дарэчы, народ? 500 антыбальшавіцкіх паўстаньняў па ўсёй краіне, найбуйнейшае зь якіх адбываецца на Случчыне. Ізноў бязьмежнае мора забітых, інтэрнаваных, выселеных, выціснутых у эміграцыю.

Цяпер пра спрыяньне Кастрычніка «фармаваньню беларускага этнасу і нацыянальнай ідэнтыфікацыі». Па-першае, навошта фармаваць тое, што ўжо сфармаванае (хіба што не табою). Па-другое, «беларусізацыя» 1920-х была ілюзорнай і правакацыйнай — каб заявіла пра сябе новая нацыянальная эліта, каб у 1930-я ўсю яе татальна пусьціць пад нож. А далей усё «фармаваньне» зводзілася да таго, каб трымаць беларушчыну ў рамках дэкаратыўнага арнамэнту на сьцягу. Варта дадаць, што пры Машэраве ў беларускіх гарадах былі закрытыя ўсе да адной беларускія школы.

Прыведзеныя мною факты ёсьць у адкрытым доступе. Але іх давядзецца яшчэ доўга паўтараць, пакуль яны ня зьявяцца ў школьных падручніках і тэзіс пра стварэньне бальшавікамі беларускай дзяржаўнасьці ня кане ў лету.

Што да самых трансьлятараў Кастрычніцкага пазытыву для Беларусі, дык варта ўсьведамляць, што гэты тэзіс — ня што іншае як стэрэатып расейскае правінцыі і прадукт рабскае псыхалёгіі, якую расейская імпэрыя заўсёды ўкараняла на захопленых землях. Насамрэч беларусы паводле сваіх нацыянальных кандыцыяў нічым ня горшыя за французаў ці чэхаў ці нарвэжцаў. Проста ніхто зь першых крокаў жыцьця не выхоўвае ў іх нацыянальнае і чалавечае годнасьці. «Падабаецца гэта каму ці не».

У 1980 годзе Сяржук Сокалаў-Воюш на маіх вачах на каленцы напісаў пра ўсё гэта верш:

*Мая... Не мая? Мая!*
*Вам спрэчкай мяне ня здолець.*
*Бо праўды ад маскальля*
*Ня мушу пачуць ніколі.*
*Гісторыю нашу ўшчэнт*
*Разьнесьлі. У сілы права.*
*І нейкі сьляпы дацэнт*
*Адмовіў маю дзяржаву.*
*Казаў ён: кім вы былі,*
*Пакуль не прыйшоў Кастрычнік?*
*Казаў, што на маскальлі*
*Трымаўся шчэ наш язычнік...*
*Ды толькі ня ўцяміў ён,*
*Што іншыя нашы крылы,*
*Яшчэ ад часоў плямён,*
*Яшчэ ад часоў Ярылы.*
*Віншую цябе, Беларусь,*
*Зь вялікім тысячагодзьдзем.*
*Няхай скаланецца хлус,*
*Бо праўда жыве ў народзе.*

**Сяргей Дубавец**
**«Радыё Свабода”**

НАША ЎЛАДА

# ЗАРОБАК ЧЫНОЎНІКАЎ ДЭМАНСТРУЕ РЭКОРДНЫ РОСТ

**За год намінальная зарплата ў органах дзяржкіравання вырасла на 37,1%, рэальная — на 30,8%. Сярод усіх відаў дзейнасці ў Беларусі, у чыноўнікаў — максімальны рост зарплаты.**

У Беларусі заработная плата чыноўнікаў дэманструе рэкордны рост. Паводле звестак Белстата, у верасні гэтага года намінальная зарплата работнікаў у сферы дзяржкіравання склала 1.084 рублі, тады як у верасні мінулага — 790,4. Такім чынам, за год намінальная зарплата ў органах дзяржкіравання вырасла на 37,1%, рэальная — на 30,8%.

Гэта максімальны рост зарплаты сярод усіх відаў дзейнасці ў краіне, пры тым што ўзровень заробкаў чыноўнікаў на 30,4% вышэйшы, чым у сярэднім па Беларусі.

Так, рэальная зарплата ў верасні 2017 года да верасня мінулага вырасла: на 19,4% — у машынабудаванні, на 13% — у металургіі, на 11% — у сельскай, лясной і рыбнай гаспадарцы, на 10% — у авіяцыі.

У некаторых відах дзейнасці яна знізілася: у паліграфіі — на 2,4%, страхаванні — на 2,2%, у дапаможнай дзейнасці паветранага транспарту — на 1,9%.

Рэальная зарплата ў бюджэтных арганізацыях у студзені—верасні 2017 года ў параўнанні з адпаведным перыядам 2016 года павялічылася на 1,3%, у верасні 2017 года ў параўнанні са жніўнем 2017 года — на 5,7%.

**Такім чынам, зарплата чыноўнікаў органаў дзяржкіравання ў верасні перавысіла зарплату бюджэтнікаў у 1,7 разу, сярэднюю па краіне — у 1,3 разу.**

Намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата бюджэтнікаў паводле вынікаў дзевяці месяцаў склала 597,5 рубля, у верасні — 636 рублёў, што на 36,1 рубля (або на 6%) больш, чым у жніўні.

Намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата ў цэлым па краіне ў студзені—верасні склала 789,9 рубля, у тым ліку ў верасні — 831,3 рубля. Гэта на 13,1 рубля (на 1,6%) менш, чым у жніўні.

Згодна са звесткамі афіцыйнай статыстыкі, у верасні ў сферы дзяржкіравання было занята 66 тысяч 572 чалавекі (летась — 72.723 чалавекі).

У каментары БелаПАН дацэнт Міжнароднага ўніверсітэта «МІТСО» кандыдат эканамічных навук Вячаслаў Ярашэвіч адзначыў, што такі рост можа быць звязаны з аптымізацыяй колькаснага складу дзяржапарату. «Камусьці гэты працэс прыносіць значную прыбаўку да зарплаты, іншым — пошук новага месца працы. Скарачэнне дзяржслужачых заахвочваецца на высокім узроўні», — адзначыў Ярашэвіч.

Тое ж самае, дадаў ён, адбываецца і ў іншых структурах. «Напрыклад, ва ўніверсітэтах скарачаюць кафедры і стаўкі, што прыводзіць да росту зарплат кіраўнікоў. А звычайныя бюджэтнікі застаюцца на тарыфнай сетцы, звязанай са стаўкай першага разраду, якая падымаецца ў апошнія гады рэдка і ўсяго на 3-5%», — сказаў Ярашэвіч.

Кіраўнік Навукова-даследчага цэнтра Мізеса Яраслаў Раманчук, у сваю чаргу, адзначыў, што рост зарплат дзяржчыноўнікаў звязаны з выкананнем пастаўленай Аляксандрам Лукашэнкам задачы давесці сярэднюю зарплату да канца года да 1.000 рублёў.

«Можна гэта зрабіць, павялічыўшы адной афіцыйнай групе зарплату на 70%, а іншай — не павялічваць зусім. У сярэднім „усім па 500“ (долараў у эквіваленце. — БелаПАН.) і атрымаецца. Многія будуць рады з яшчэ большым запалам выконваць валавыя паказчыкі, а астатнія, хто не дасягнуў 500, павінны разумець, што падачак больш не будзе», — лічыць эксперт.

Ён звярнуў увагу на тое, што дзяржрасходы два гады запар застаюцца на ўзроўні 42-43% ад ВУП і не зніжаюцца. Ёсць яшчэ так званыя забалансавыя выдаткі (прыблізна 5% ВУП). «Мы не можам кантраляваць расходы ўсіх органаў дзяржкіравання, таму ім лёгка перакінуць з аднаго артыкула расходаў на іншы, у тым ліку на павышэнне зарплат. Яны будуць праядаць грошы, замест таго каб накіроўваць іх на развіццё», — мяркуе эканаміст.

**Марына Носава**
**БелаПАН**

100 КАСТРЫЧНІКУ

# БЕЛАРУСЬ В ПЛЕНУ МЕРТВЕЧИНЫ

**Споры о наследии Октябрьской революции (или переворота) — это вопрос не прошлого, а будущего нашей страны. Беларусь остается в капкане провального исторического эксперимента...**

Да, по большому счету эпоха прошла. В советские времена красные даты в Минске отмечали многотысячными манифестациями, сегодня же официальное мероприятие — возложение цветов к большому черному монументу Ленина перед Домом правительства — собрало примерно тысячу человек на четверть часа. Потом публика быстро рассосалась.

Другой полюс отношения к дате, которая остается красной только в белорусском календаре (от нее отказалась даже Россия, где, собственно, и выстрелила «Аврора» сто лет назад), — это перформанс в Березовке Лидского района. Там к памятнику Ленину возложили венок, «украшенный» черепами, колючей проволокой и снабженный пожеланием «Гары ў пекле, кат» («Гори в аду, палач»).

**Концептуальная битва**

Дата дала разным деятелям и просто политизированной публике повод скрестить идейное оружие в концептуальной сече. Возбудились голоса как адептов созданного большевиками строя, так и тех, кто считает коммунизм абсолютным злом.

«Самое главное достояние — народовластие, социальная справедливость, дружба людей, помощь. Это то, что принес нам Октябрь. На этой основе народ СССР победил в Великой Отечественной войне и мы построили мощное социалистическое государство. Были недостатки, но они мизерны по сравнению с тем, чего мы достигли», — заявил сегодня на столичной площади Независимости (прежде — Ленина) председатель Компартии Беларуси Алексей Камай.

Этот набор доводов шаблонен, то и дело звучит из разных уст — и легко разбивается представителями другого лагеря.

Они, например, скажут, что одержимый паранойей Сталин выкосил перед войной цвет Красной армии — и победа далась не «благодаря», а «вопреки». А «мощное социалистическое государство», в котором не было туалетной бумаги, в итоге проиграло соревнование капитализму и расползлось по швам. СССР просто нет, колосс на глиняных ногах рухнул — вот вам главное доказательство неконкурентоспособности коммунизма...

**К чему привел совок в мозгах**

Здешняя топонимика, набор памятников в городах — это сплошной Хэллоуин. Увековечены кровавые, демонические фигуры. Но это только наружная атрибутика. Печальнее то, что и руководство страны, и немалая часть населения — в ментальном плену ушедшей эпохи. Мертвечина держит страну, общество в своих объятиях.

Наследие тоталитарного строя аукнулось тем, что после развала СССР люди оказались не готовыми к свободе. Потянуло назад, в убогий рай с докторской колбасой по 2 рубля 20 копеек (очереди за ней, равно как и за прочими дефицитами, как-то быстро забылись).

Именно совок в мозгах привел к власти в 1994 году Александра Лукашенко. Ну а тот, кажется, довольно искренне взялся возвращать Беларусь в «светлое прошлое». В итоге страна потеряла и продолжает терять драгоценное историческое время.

В поздравлении по поводу сегодняшней даты Лукашенко отметил, что «сформированные в период Советского Союза социально-экономические принципы легли в основу развития промышленного, научного, сельскохозяйственного и социального потенциала современного белорусского государства».

По-своему это верно. В Беларуси, как и в СССР, составляются пятилетние планы, доминирует государственная собственность. Но в советские времена пятилетки, пусть и дорогой ценой, в основном выполнялись, белорусское же правительство минувшую пятилетку позорно провалило, а на нынешнюю запланировало фактически топтание на месте. Массив же госсобственности стал капитальным тормозом развития страны. Многие предприятия работают неэффективно, держатся на вливаниях казенных денег. Это предприятия-зомби.

**Торжество карго-культа**

Страх белорусской правящей верхушки, изрядной части номенклатуры идет от незнания рынка и смутного предчувствия, что его наступление сделает ненужной всю нынешнюю дирижистскую систему, основанную на том, что вождь ездит на квадроцикле по полям, лично щупая колоски, периодически собирает «крепких хозяйственников» на совещания и пугает жесточайшим спросом. А начальники поменьше пугают своих подчиненных. При том что в действительно развитых, богатых странах экономика каким-то непостижимым для наследников Октября образом функционирует без селекторных совещаний.

**Главная проблема ведь не в том, что дата 7 ноября остается праздником в официальном календаре. Проблема в том, что Беларусь де-факто остается в капкане провального исторического эксперимента.**

Из советских времен — и борьба с тунеядством, рецидив которой привел к появлению печально известного декрета № 3. Спровоцировавшего, в свою очередь, массовые протесты в феврале — марте. Власти получили капитальный батхерт на ровном месте, а масса увидела, насколько «народен» режим, выводящий против мирного населения легионы «робокопов» в тяжелых латах и с водяными пушками за спиной.

К слову, о так любимом наследниками Октября лозунге народовластия. Да, в 1994-м Лукашенко выиграл на довольно демократичных выборах. Но потом выборы были превращены в карго-культ, точь-в-точь как при советской власти. Периодически люди приходят в школы, опускают кусочки бумаги в красные ящики, однако к вопросу власти это не имеет отношения. Она взята раз и навсегда и удерживается совершенно иными способами.

Наконец, именно москвоцентризм и тяготение к реставрации советской системы определили выбор Лукашенко в пользу «братской интеграции» с Россией. Это обернулось «диким креном», порочность которого в минуты откровенности был вынужден признавать и сам белорусский президент.

Российские субсидии оказались коварным наркотиком. Да, был период кайфа, разнузданного популизма, когда можно было повышать зарплаты без трансформации советского производственного потенциала, но при этом Беларусь упустила золотое время для реформ. А зависимость от Москвы стала угрозой суверенитету.

**Курс на задворки развитого мира**

Было бы неверно сводить проблемы развития Беларуси к тому, что вот, правящая верхушка уцепилась за власть и ничего не хочет менять. Изрядная часть населения тоже ничего не хочет менять. Даже среди тех, кто при социологических опросах высказывается за реформы, немала доля респондентов, для которых реформы — это усиление роли государства в экономике.

Наследие совка ведь еще и в том, что глубоко пустил корни патернализм. Велик страх потерять казенное рабочее место, пусть и со скудной зарплатой. При настоящем рынке — да, придется переучиваться, повышать квалификацию, конкурировать. Так, может, ну его к чертям собачьим?

«...Идея, что рынок нас спасет, что капитализм — это единственная система, которая может сегодня существовать, полная чушь», — рассуждал Лукашенко пару месяцев назад, принимая в Минске Геннадия Зюганова и стараясь пролить бальзам на душу лидера российских коммунистов.

Но все эти словесные выверты разбиваются о железный факт: нет ни одного примера, чтобы без рынка создали по-настоящему богатую, развитую страну. Апофеоз коммунистической системы — это сегодняшняя Северная Корея.

У нас до этого не дойдет, но вот вечное место на задворках развитого мира Беларуси светит вполне реально.

*(сокращено)*

**Александр Класковский**
**БЕЛАПАН**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.11.2017 у 17.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.